ЯКУБ КОЛАС

# НА РЭЧЦЫ ЗІМОЙ





Дзяржаўнае выдавецтва пры СНК БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
Мінск — 1941






Малюнкі мастака *Р. Кроля*

НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

**Я. Колас.** На речке зимой.

Государственное Издательство при СНК БССР

Минск — 1941

ДЛЯ ДАШКОЛЬНАГА І МАЛОДШАГА УЗРОСТУ



Рэдактар *Г. В. Канавалаў*

Мастацкі рэдактар *Б. Н. Паршнёў*

Карэктар *Г. М. Нейфах*

---

Здана ў друкарню 12/X—40 г. Падпісана да друку 15/II—41 г. Аб'ём $^3/_8$ друкаваных аркушаў. Папера $70 \times 108^1/_{32}$. Знакаў у друкаваным аркушы 24.000. Тыраж 10.000 экз. Зак. № 849. У1405.

---

Друкарня Акадэміі Навук БССР.





Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі,
З доўгімі вусамі,

Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдка верхавіны
Зашумяць маркотна.

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна—
Ні канца, ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць;
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...

Хочацца Алесю
Выйсці на двор з хаты,
Ўзяць з сабой сякерку
Ды ў той лес кашлаты,—

Стукнуць па дзярвяках
З-за пляча абухам
І глядзець, як сыпне
Снег халодным пухам;

Як стаяць над рэчкай
Хвоі і яліны,
Як ім снег халодны
Нахіліў галіны.

— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла: —
Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
Зараз-жа вярнуся.
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся,
Ды глядзі, ў палонку,
Сынку, не ўваліся.

Радасць і раздолле
Хлопчыку малому,
І не пазайздросціць
Ён цяпер нікому.

На плячо—сякерку,
Саначкі—у руку,
Хлеба ўзяў кусочак.
— Цюцік!—свіснуў Жуку.

Пад скарынкай лёду,
Тут-жа каля хаты,
Працякала рэчка
Скрозь лясныя шаты.

Побач тэй рачулкі
Кучы буралому,
І застыла рэчка
Мёртва, нерухома.

Моцна яе грудзі
Маразамі скуты,
І аковы лёду
Сярод рэчкі ўздуты.

Цiснецца вадзiца,
Не знаходзiць ходу
I не мае сiлы
Скiнуць глызы лёду.

На рачулцы ў лесе
Меў Алесь забаву.
Ну-ж i пацяшаўся
Хлопчык тут наславу!

Эх ты, лёд-гвалтоўнiк!
Што ты вытвараеш?
Ты нашто вадзiцу
Крыўдзiш i ўшчуваеш?

Бедненькай ёй цёмна,
Цесна пад табою.
Хай-жа пагамонiць
Мiлая са мною!

Дай ёй ход, галубцы,
Каб на свет зiрнула!—
I яго сякерка
Спрытна секанула.

Звякае тапорык,
Глуха стук нясецца,
Раптам клуб вадзіцы
З-пада дна ўзаўецца.

Коціць поўзверх лёду,
Іней падымае
Ды такую-ж казку,
Байку хлопцу бае!

Слухае хлапчынка
Гэты сказ нязнаны,
Спеў, нікім адвеку
Ў лесе нечуваны.

То яму здаецца
Дудак хор далёкі,
То птушыны ў небе
Голас адзінокі.

На душы так ціха,
Ціха і нейк млосна,
І спявае ў сэрцы
Спеў той сугалосна.

Гэты спеў дзівосны
Чары навявае,
І такія казкі
Слаўныя складае!

І ад гэтай песні
Вее дабратою,
Радасцю і шчасцем,
Мілаю вясною.

Ад той песні-казкі
Трудна адарвацца,
І ёй струны сэрца
Хочуць адклікацца.



